




## РОДНЫ АЛФАВІТ



Ён захаваўся як рэлікт
Людскою мудрасцю спавіты,
Слязамі і крывёй паліты
Наш неўміручы алфавіт.

Жыве ён родны алфавіт
У вершах, казках і загадках,
Каб перадаць яго нашчадкам,
Вучы старанна яго, ты!



* * *

Для вас, хлопчыкі, дзяўчаткі,
Я прыдумваю загадкі
І лічылкі, і смяшынкі,
Казкі, вершы, весялінкі:
Калі літары пазнаеш,
Усё гэта прачытаеш.




# А



## АПАНАС І АНАНАС

Абудзіўся АпАнАс:
— ДАй, бАбуля, АнАнАс.
— А вАзьму яго я дзе?
Не рАсце ён нА грАдзе!
СхрумстАй, морквіну, ПАнАс,
Нібы з мёдАм морквА ў нАс.
— Не хАчу я, я ж не зАй,—
Лепш АнтонАўку мне дАй...

## Загадка

Арэшнік рАсце,
А што нА кусце
Дзецям тАк любА,
Як трАпіць нА зубы?

*(Арэх)*

## Скорагаворкі

Хто з вАс зАгАдку АдгАдАе,
Той АбАрАнку АтрымАе.

Антось Атрос Апошні Абрыкос,
А пАсля Абрыкос Алёне Аднёс.

# Б

**Б**О**Б**ІКАЎ **Б**УДАНОК

Бух, Бух, Бух,
Бух, Бух, Бух —
Б'е па Бервянцу аБух.
Бервянцо за Бервянцом —
Будзе БоБік мецць свой дом.




## Загадка

Пад дуБкамі грыБнікі
Бралі ў кош....

*(Баравікі)*

## Скорагаворкі

Бацька Бусел ля Буслянкі
Буслянятам Баяў Байкі.

БуБачка не БульБачка, а Баран не БараБан.



# В

**В**АРА-СКНАРА



У ВарВары — дзВе ВаВёркі,
У Валеры — дзВе Вяроўкі.
Просяць Вару: «За Вяроўку
Дай Валерыку ВаВёрку!»
Вара кажа: «Не дарос
І мне ранец не паднёс!»
І не аддала ВаВёрку
Ні за так, ні за Вяроўку.



## Загадка

Неяк раніцай зВярок
У дупло прынёс грыбок.
ХВосцікам махнуўшы нам,
Ён на дрэВа скочыў сам.

*(ВаВёрка)*

## Скорагаворкі

Ветралёт гуляў — Верталёт дагнаў,
Ды не здолеў Ветралёт долу скінуць Верталёт.

Воўкам Вые Вецер уВосень.
УВосень Воўкам Вые Вецер.

# Г

**Г**ОДЗЕ, ЗАЙЧЫК

Гоп-ля-ля, Гоп-ля-ля,
Госці ехалі здаля
Следам за трамвайчыкам,
Гаварылі з зайчыкам.
Ды як Грукне тут трамвай:
— Твой прыпынак зараз, зай!



## Загадка

Гэты Грэбень ля касы
Грабе траўку-валасы.

(Граблі)



## Скорагаворкі

Грак на Гра́бе ў Град Гаруе:
«Мае Грады Град здратуе».

Гаманлівыя Гусі ГаГаталі Гучна.
Гучна ГаГаталі Гусі Гаманлівыя.



# Д

**Д**ЗІМА-ЛІЧЫЛЬНІК

— Колькі буДзе «Два Ды Два»?
Колькі? Думай, галава!
Дзіму аДказаць папросім.
Дзіма Думае, што восем!
— Ну і Дзіва… Думай, Дзіма!



## Загадка

Яго тонкіх Доўгіх ножак
ПаДлічыць ніхто не можа.
Ён не веДае пра стому,
Б'е па Дрэве і па Доме.

(Дождж)



## Скорагаворкі

Доўгі Дзень Дагарэў,
Дзесьці ДуДар ДуДзеў.
Дзіўны ДуДаччын спеў
Да Душы Даляцеў.

Дужа Доўга Дзьмухаў Дзік.
ЗаДзьмуць Думаў малаДзік.

# ДЖ

ЖАРОН

ДЖых-ДЖых-ДЖых,
Меле зярняткі жарон,
ДЖых-ДЖых-ДЖых —
З моцнага камення ён.
ДЖых-ДЖых-ДЖых,
ДЖых-ДЖых-ДЖых —
Для Васілька
Будуць аладкі,
Бо будзе мука.




АСА

Добра ДЖыганула Нінку —
Ледзь асу ўзяла за спінку,
Бо пагладзіць захацела,
Ды ДЖыгалка ДЖала мела.





**Скорагаворка**

ДожДЖык, ліўнем
Секані,
Сухмень з долу
Прагані.
Спёка, нам
Не пагражай —
Выратуем ураДЖай!



# ДЗ

ЖАРТ

Просіць ДЗеда Апанас:
— Дай, ДЗядуля, ананас.
— А вазьму яго я ДЗе?
Не расце ён на граДЗе.
Дый сусед сцвярджае, ФеДЗька,
Больш яму да смаку рэДЗька.



**Загадка**

Хто бязгучна мякка хоДЗіць,
Хто без рук павейкі звоДЗіць?
Не відаць яго ніДЗе,
А на ложак пакlаДЗе.

(Сон)

## Скорагаворкі

Папрасіў ДЗяніс Ягорку
Трамбаваць рыдлёўкай горку.
Для ДЗяніскі час быў горкі,
Нос разбіў — як ехаў з горкі.
Падвяла ДЗяніску горка —
Вось і ўся скорагаворка.

ДЗінь-ДЗінь-ДЗінь:
Звініць званок —
ДЗетачкам пара на ўрок.
ДЗінь-ДЗінь-ДЗінь:
Звініць ён зноў —
ДЗетачкам пара дамоў.




# Е

### ЕЛЯЧКІНЫ ЛЕКІ

Еля ранкам моркву Ела.
Ела, Ела, нЕ даЕла.
Маці кажа ёй: «ДаЕш,
Будуць вочкі бачыць лЕпш!»
Еля моўчкі пасядзЕла,
Потым кЕпачку надзЕла,
Моркву згрэбла з фартушка
І... бягом — да катушка.
ДзвЕрцы ў клЕтку адчыніла
І, як мама, паўтарыла:
— На, мой зайчык, моркву з'Еш,—
Будуць вочкі бачыць лЕпш.



### У ЕЛЬНІЧКУ

Енчыў хтось у Ельнічку —
Там знайшлі ГанэлЕчку.
Екатала трошкі,
Пакалоўшы ножкі.

## Скорагаворкі

Ехалі мы доўга, Ехалі
І да ЕгЕра прыЕхалі.
ЕгЕр нЕдзЕ ставіць Ез,
БудзЕ з юшкай альбо бЕз.

Ева з Елачкай гуляла,
Ева Елачку прыбрала.

# Ё

### У ЛЕСЕ

Ёсць за хатай лес густы:
Ёсць там елкі, Ёсць кусты,
Ёсць суніцы, Ёсць чарніцы,
Ёсць каліна, Ёсць маліна,
Ёсць арэхі, Ёсць грыбы —
Ён чакае вас, сябры!



## ДЗЕ **Ё**?

«Ё» схавалася за «Ы»
І сядзіць там хоць бы хны.
«Е» — шукае: «Ё, а Ё,
Дзе ты, горачка маЁ?»



### Скорагаворкі

Баба Ёжка рыб любіла,
Ёжка Ёршыка злавіла.
Тут пачаўся Ёкат, гоман —
Ёрш ад Ёжкі ўцЁк у НЁман.

Ёгі селі ля дарогі,
Ёгі Ёдам мажуць ногі.

# Ж



## **Ж**УК

Жук ля Жолуда сядзеў,
Жолуд лапкамі сагрэў.
Потым каЖа: «Жу, Жу, Жу!
Я вам нештачка скаЖу,
Потым Жолуд пасадЖу.
СкаЖам, недзе праз гадок
Будзе малады дубок».



### Загадка

Ці то песню, ці то свіст
Цэлы дзень вядзе артыст,
Добрым сонейкам сагрэты,
Звонка ціўкае ў паветры.

(Жаўрук)



### Скорагаворкі

Жвачку Жаба паЖавала.
«Жвачку не зжуеш!» — сказала.

ЖэўЖык лыЖкай лез у ЖыЖку,
Жур з той лыЖкі — кап на кніЖку.

# З



## **З**АЙКА

Зай па лесе Зранку скача,
Зноў ад страху ледЗь не плача.
Зай Зламаў галінку: «Шчоўк»,
А Здалося — Злосны воўк!

## Загадка

Закружыла, Замяло,
Заляпіла ўсё сяло.
І рачулкі ўжо няма,
Прыйшла матухна…

(Зіма)



## Скорагаворкі

Быў Замак на Замкý.
Замок на За́мку
Пад дажджом Замок.

ЗапаўЗла піла ў Зруб
І Зламала Звонкі Зуб.



# І

### ІМЯНІНЫ

У ІнусІ ІмянІны —
Дзень І светлы,
Дзень І слынны…
Ідуць куры, Ідуць гусІ —
ІмянІны ў ІнусІ.
І дзядуля, І бабуля
ВІншаваць Ідуць Інулю.
Аддамо ёй свае буськІ —
ІмянІны ў ІнуськІ.



## Загадка

І спІнку мае,
І вушка мае,
І носІк мае,
І хвосцІк
За сабой цягае.

(Іголка)

## Скорагаворкі

ІшлІ Нэла І ПалІна
І заўважылІ паўлІна.
«Іх», — ажно прысела Нэла, —
Курыца як расквІтнела».

Ілля І Іра, І Ілона
ІмчалІ да Іларыёна.




# Й

«І» кароткае мітусілася:
«АЙ, дзе ж гэта я нарадзілася?»
Кажуць: «ЗапытаЙся ў Полі».
Поля адказала: «У полі».
Кажуць: «ЗапытаЙся ў Лесі».
Леся адказала: «У лесе».
А Панас на ўвесь клас:
«Падкажы, МацеЙ,
Ты ж наш грамацеЙ!»

ТоЙ смяецца: «Сябры, не мудрыце —
«Й» нарадзілася ў алфавіце!»

ЗаЙчык-загадаЙчык
ЗнаЙшоў недзе мячык.
Абрадаваўся ЗаЙка:
«Вось мячык-забіваЙка».



### Скорагаворкі

ДаваЙ, даваЙ, даваЙ,
ГуляЙ, гуляЙ, гуляЙ!
Але не забываЙ —
Маме памагаЙ!

СвяткуЙ, справаЙ, моЙ родны краЙ,
УсмешкаЙ светлаЙ шчыра ззяЙ!

# К

**К**УРКА, **К**ОЦІ**К** І **К**УРАНЯТЫ

КурКа ранКам Куранят
Край Кустоў вяла ў сад.
Раптам КоціК сКоК з гароху —
КуранятаК напалохаў.
КурКа ўраз зацаКатала,
Куранят усіх сабрала,
Крута распрасцёрла Крылы



І да КоціКа ступіла...
КоціК не на жарт спужаўся
І хутчэй за плот схаваўся.
КуранятКа Кураняці
Ціха Кажа: «Глянь на маці,—
Можа і з Катом пабіцца,
Бо н-н-ніКога не баіцца».



«КУ-КУ» НА ШЧАСЦЕ

Хтосьці КуКуе
«Ку-Ку» ды «Ку-Ку» —
НеКаму шчасцейКа
Кліча ў руКу.



### Скорагаворкі

Круць-Круць гэтаК,
Круць-Круць таК,
КісКі сКачуць КраКавяК.

КозачКа Купіла КазлянятКам КошыК Капусты.
Капусты КошыК КазлянятКам Купіла КозачКа.

# Л

**Л**АЙДАК

Ляжаў Лявон Ля нівы,
Заснуў Лайдак Лянівы.
Каровы ў Лес пайшЛі,
Ледзь-Ледзь іх там знайшЛі.



## Скорагаворкі

ЛаскаваЯ кабыЛа
Ласункі ЛюбіЛа.
ЛёЛя кабыЛе
Ласункі насіЛа.

ЛюЛі, ЛюЛі, ЛюЛі,
Ліску ў Лапцікі абуЛі…
Ліска ў Ліпавых Лапцях
Лоўка ЛаЗіць па Лясах.

Лёня Лакіраваў ЛюЛьку, Лена ЛашчыЛа ЛяЛьку.
ЛяЛьку ЛашчыЛа Лена, ЛюЛьку Лакіраваў Лёня.



# М

**М**АЎЧУНЫ

Міколку й Моціка, Між наМі,
У садочку клічуць МаўчунаМі:
— Абы не Мы, абы не Мы —
АдМоўчваюцца Маўчуны.
Адзін — Маўчыць, другі — Маўчыць.
Як навучыць іх гаварыць?




## Загадка

Мы засынаеМ да вясны,
Мы бачыМ залатыя сны,
Мы ўвесну не МінёМ калод,
Мы вельМі, вельМі любіМ Мёд.

(Мядзведзі)

## Скорагаворкі

Кіска: «Мурка на падМурку Муркае пра Мурку».
Ліска: «Можна не пра Мурку? Муркай лепш пра курку».

Ля Млына Млынар, у Млыне Макар.
Ён саМ без Млынароў Мех Мукі наМалоў.



# Н

**Н**АВАРАЖЫЛА

Нам цыгаНка варажыла,
На стол карты разлажыла...
Нешта ёсць, а Нешта будзе —
НечакаНы госць прыбудзе.
НіНачцы дала Наказ:
ЗНоў шукаць павіННа Нас.



### Загадка

Нехта ціха, мякка ходзіць,
Нехта зНоў павейкі зводзіць.
СоН чароўНы прыНясе.
Як яе завуць усе?

(Ноч)



### Скорагаворкі

Натка прыбяжыць да хаткі,
Там чакаюць кацяНяткі.
Ёй Не трэба больш заНяткаў —
Натка НяНьчыць кацяНяткаў.

НоНа Ноты Напісала,
НоНа Нават Ноты зНала.



# О

**О**МУЛЬ

Омуль, штО гэта за звер,
Ясь не ведаў і цяпер.
Птушка альбО камень рэдкі...
— ХтО падкажа Ясю, дзеткі?
Падышла да Яся Лідка:
— Ясік, Омуль — гэта рыбка.



### Скорагаворкі

Баба ВОля ля тапОлі,
Ойкала нібы ад бОлю:
«Ой-Ой-Ой» ды «Ой-Ой-Ой».
Запыталі: «ШтО з табОй?»
«Ох-Ох-Ох, Ох-Ох-Ох!
На гарОдзе крОп пасОх!»

Ой-люлі, Ой-люлі,
Спяць у бухце караблі.
Ой-люлі, Ой-люлі,
Кніжкі, цацкі спаць ляглі.
Ой-люлі, Ой-люлі,
Ты таксама падрамлі...



«Ой» ды «Ох» з усіх нОг беглі нОччу ў гарОх,
Неслі ў дОм з гарОху плескачОў патрОху.

# П

## ПЕЎНІК І ПЕВЕНЬ

Да Пеўня Пеўнік Падышоў,
Пеўнік Пеўню расПавёў:
«Хлеў мой раніцай згарэў…
І я раПтам захварэў…»
Певень Пеўніка Паслухаў,
Певень Пеўніка Пастукаў,
Певень Пеўніку даў лекі —
Абышлося без аПтэкі.



### Загадка

Ён закрыты — нібы клін,
А раскрыты — быццам блін.
Дождж ліне, ён не чакае,
А мяне хутчэй хавае.
Сонейка з'яўляецца —
Сам тады хаваецца.

*(Парасон)*

### Скорагаворкі

Плач альбо Парагачы —
Я Пайду Па рагачы.



Пунька ёсць, і конь, і Пуга,
Прыстасуеш замест Плуга.

Прадаюць Піражкі з Пылу-Пару,
Прадаюць Па Пяцёрцы за Пару.

# Р

## РЫБАЧОК

Рыбачку ля лодкі
Сніўся сон салодкі:
Быццам шэнціць Рыбачку —
КаРп тРапеча на кРучку…
ПРахапіўся Рыбачок
І з вады Рвануў кРучок.
Разгубіўся небаРак:
На кРучок злавіўся… Рак.





### Загадка

Ранкам увосень паненкі
Раптам згубілі сукенкі.
Раптам згубілі каРтузікі,
Засталіся чыРвоныя гузікі.

*(Рабікі)*

## Скорагаворка

Рабацiначкi на тваРы
У АРтуРа i ВаРваРы —
Iм вясна пРынесла ў даР
Рабацiначкi на тваР.
Рома з Рэмам Рады, Рады,
Рамы зРоблены на гРады.

# С



### СНЕГАВIК

Сёння Сыпаў Свежы Снег!
Саўка Стрымгалоў пабег.
Для дзiцячага кутка
Стаў ляпiць Снегавiка.
Там Спярша, дзе вочкi,
Сунуў вугалёчкi.
З морквы, што з Сабой прынёС,
Прырабiў чырвоны ноС.
Слаўны прыгажун узнiк.
Ён завецца — Снегавiк.



## Загадка

Сiвенькая мушка
Села мне на вушка.
Нешта Сiпла зашаптала,
МуСiць, Свой Сакрэт Сказала
I паСля кудыСь прапала.
Паглядзела я туды,
А там кропелька вады.

(Сняжынка)



## Скорагаворкi

Скача на СаСне Сарока,
Скок — туды, Скок — Сюды.
Спрытна зверху белабока
Лiчыць зайкавы Сляды.

Соль, Скажы, што ты яСi?
З «С» i ноткi «Соль» i «Сi».

# Т

## ТАНІН ПАДАРУНАК



Брацік Тупае ля Тані:
«Таня, дай мне свае сані.
УТапТаная ТуТ горка,
Там каТаецца Тадорка».
«Трэнь-Трэнь»,— Трэнькае гадзіннік.
Брацік сёння імяніннік.
Торгаюцца ў браТа сані —
ГэТа падарунак Тані.

## Загадка

Пад лісТочкам на кусТочку
У чырвоным капТурочку
На гародзе вырасТала —
Цуда-ягадкаю сТала.

*(Трускалка)*



## Скорагаворкі

Трубка Тэлефонная —
Пазваню сягоння я!
Я ўжо ўмею набіраць:
— Два, дванаццаць,



Дваццаць пяць…
Толькі нумар набяру —
З сябрам я пагавару.

Тася Тройку аТрымала.
Кажуць: «Тася, а Тры мала!»



# У

## У БАРЫ



У бары, У бары,
ГУртам збегліся звяры.
БУдУць ладзіць карагод,
БУдУць клікаць Новы Год.
«Паглядзіце, — крыкнУў хтосьці, —
Дзед Мароз шыбУе ў госці!»
Дзед смяецца: «Як магУ,
Вам, сябры, дапамагУ».
Ён паклікаў: «Снегіры,
Не хавайцеся ў бары,
На палянУ прылятайце
І на ёлачкУ сядайце!»
Упрыгожаная ёлка
Зазіхцела, як вясёлка.
ТУт запляскалі ўсе ў ладкі,
І наўкрУг пайшлі ўпрысядкі.



## Загадка

Угадай, УнУк, загадкУ:
«У дУпле хто мае хаткУ,
На галоўцы — яркі чУб
І гаворыць: «Уп, Уп, Уп»?

(Удод)



## Скорагаворкі

У козачкі — казляня,
У аленіхі — аленяня,
У кУрачкі — кУраня,
У гУсачкі — гУсяня.
У маёй мамачкі — гэта я!

У мяне ёсць Унты,
Уля кажа: «Ух, ты!»









# Ў

### ГА**Ў**-ГА**Ў**

ЗаснуЎ шчанюк.
СкруціЎшыся, ляжаЎ
Ды Ў сне зубамі
Язычок прыціснуЎ.
Знянацку ён захроп
І «свіснуЎ»,
Чым сам сябе
Страшэнна напужаЎ.
УскочыЎ, вылупіЎшы вочкі:
«ГаЎ-гаЎ! гаЎ-гаЎ! ГаЎ- ГаЎ!»

## Скорагаворкі

ЛоЎка за вяроЎку
ТрымаЎ цацку ВоЎка.

ЗноЎку «Цар звяроЎ» зароЎ.
Ясь сказаЎ яму: «ЗдароЎ!»
Ясь таму так асмялеЎ,
Што ляжаЎ у клетцы леЎ.



## Ф

### ФІГУРЫСТЫ



Мы катаемся на лёдзе
І адны, і ў карагодзе.
Ў лад музычнай уверцюры
Робім розныя Фігуры.
Трэба ўсё зрабіць прыгожа,
Ды не кожны гэта можа.



Ледзь не так ступіў Валодзя —
І... ляжыць ужо на лёдзе.
Слізганула раптам Эла,
Ды таксама побач села.
Значна ўсё было б лягчэйшым,
Каб крыху быў лёд мякчэйшы.

### ПАДАРУНАК

Сёння свята ў нашай хаце,
Рады тата, я і брат.
Падарыў дзед нашай маці
Новы Фотаапарат.



## Скорагаворкі

Пад ФанФары, пад ФанФары
Фазаняткі йшлі па пары.
Запыталі ў Фазаняткаў:
— Вы куды?
— На Фіззарадку!

Федзя Фортку адчыніў,
Філін — Фыр і як не быў.

# Х

### ХРАБРЫ ЯНКА

Ходзіць ранкам Янка
Па прыступкаХ ганка.
Яшчэ сонца не пячэ,
Рэчка Хваліста цячэ,
Маці поле градкі.
— Дзень пачну з зарадкі.
«Ку-ка-рэ-ку, ку-ка-рэ-ку!» —
Певень праХрыпеў аднекуль.
Шпоры вострыя такія,
Хвост здыбіў аж да шыі,
Кінуўся наўскач да ганку —
Нібы ветрам здзьмула Янку.



### Загадка

Хатку татка ў дом прывёз,
У той Хатцы — Дзед Мароз.
Ён там спіць, Храпе, буркоча,
Паказацца мне не Хоча.

(Халадзільнік)



### Скорагаворкі

Гуляюць Хлопчыкі ў Хакей:
Хто шайбу з іХ заб'е Хутчэй.
Гуляюць Хлопчыкі ў футбол:
Хто з іХ заб'е Харошы гол.

Хама рагоча:
— Хто Халвы Хоча?»
— Халвы не трэба, я Хачу Хлеба.

# Ц

### ЦУР, НЕ Я

Цур, мы ў хованкі гуляем!
Цур, сваіх сяброў прымаем.
Цур, патрэбна ўсім стараЦЦа,
Не сваволіЦь, не смяяЦЦа,
А вось тым, каму жмурыЦЦа,
ПастараЦЦа не журыЦЦа!



### Загадка

Цэлы дзень ён забаўляеЦЦа,
Цэлы дзень за мной ганяеЦЦа,
А як толькі сонейка зойдзе —
Яго тады ніхто не знойдзе.

(Цень)

## Скорагаворкі

Цераз дзверЦы на паверЦы
Неслі ЛерЦы на талерЦы
Па ЦукерачЦы ў паперЦы.

Ціха Ценькае сініЦа —
Ціха, ёй суніЦа сніЦЦа.



# Ч



### ЧЫРКІ І ЧЫРАНЯТЫ

Зранку плавае Чыранка,
Чыранятавая мамка,
І паказвае малым,
Дзе ў вадзе расце Чылім.
ПобаЧ з ёй плыве Чырок,
Ён дае нырання ўрок.
Каля мамы, каля таты
Ўрок засвояць Чыраняты.



## Загадка

Чабор, брусніЧка, мята,
Чароўных траў багата
Яго не абміне.
Як водар настаіцца,
ПаЧне праз носік ліцца.
Хто ён? Скажыце мне.

(Чай)



## Скорагаворкі

Чыкі-Чыкі, Чмут вялікі
ПлашЧ узяў і Чаравікі.
Сеў у Човен на Быстрыцы
І Чакае Чараўніцы.

Чэсю Чорнае Чарніла
Чуб не Чорны паЧарніла.



# Ш

**Ш**АР

Шкоднік-ветрык жартаваў,
Шар у Косці адабраў.
Ірвануўся Шар уверх,
За дванаццаты паверх.
«Ты прабач! —
Міргнуў ён Косці. —
Палячу да сонца ў госці!»



### Загадка

Якую літару дадаць
Да слова «кола»,
Каб дом вядомы атрымаць
Усім наўкола.

*(Ш-кола)*





### Скорагаворкі

Штогод пуШыстая ШынШыла
ШынШылянятам Шапкі Шыла.

Шэпча ШэрШаня: «Шу-Шу,
Швае Шорты Шам ШуШу».

# Ы

СМАЎЖ**Ы**

Падарожнікі-смаўжЫ
Зморана у сад паўзлі —
КлЫпалі янЫ з гарЫ
І спЫніліся ў дварЫ.
Раптам нешта бліснула,
ГрЫмнула і свіснула.
«Ых!» — падумаў старЫ смоўж,—
Пэўна, будзе моцнЫ дождж».
Хутка дождж закрапаў,
Смоўж ажно заплакаў:
«Будзе надта шмат вадЫ,
Нам цяпер паўзці кудЫ?»



ТАРАС І КВАС

ХнЫча раніцай Тарас—
«Ы-Ы-Ы» дЫ «Ы-Ы-Ы» —
Як разліў са шклянкі квас,
ЗакапрЫзнічаў малЫ,
Зноўку хнЫча: «Ы-Ы-Ы» дЫ «Ы-Ы-Ы».



## Скорагаворкі

ЧЫжЫк-пЫжЫк,
Дзе тЫ бЫў?
ЛЫжЫ новЫя набЫў...

Міла з мЫлам Ляльку мЫла,
Міла змЫліла ўсё мЫла.



# Ь

МАЙСТРА «**Ь**»

Стаў я каля слова «кон»—
Атрымаўся спрытны конЬ,
А прыліп да слова «рыс» —
Засіпела хціва рысЬ.
«Я ў пашане, як мастак»,—
Казаў майстра мяккі знак.




## Загадка

Мяккі знак сярод літар стаяў,
Мяккі знак перад сном пазяхаў.
Ды раптам — бом! — зваліўся гляк,
І трапіў ён на мяккі знак.
Пабіўся — не разбіўся
І ўголас пахваліўся:
— Пашанцавала мне, аднак:
Зваліўся я на...

*(Мяккі знак)*



## Скорагаворкі

Малы ЯсЬ — плясЬ у гразЬ
І трапеча, як карасЬ.
— Ты не язЬ, не карасЬ,
З гразі, ЯсЬ, хутчэй вылазЬ!

ДзенЬ у дзенЬ свеціцЬ праменЬ,
І на пенЬ кладзецца ценЬ.



# Э

**Э**КСПЕРЫМЕНТАТАРЫ

Эрык з Эдзікам удвух,
Як гавораць — хлопцы зух.
І кіруе імі нюх —
Эксперыментальны дух.
Экскаватар змайстравалі,
Эскалатар збудавалі.
Эх, цяпер бы дагадацца,
Як на іх бы пакатацца.





## Акразагадка

Эдзю лепшы падарунак —
Самы смачненькі ласунак.
Каля крамы як прыліпне
І на маму вочкам лыпне…
Маці ў смех, але купляла.
Ой, як смачна, толькі мала.

(эскімо)





## Скорагаворкі

Энікі-бЭнікі падсілакаваліся,
Энікі-бЭнікі пілі ваду.
Энікі-бЭнікі, дзе вы схаваліся?
Энікі-бЭнікі, я вас знайду.

Эма грае на кларнеце не ў кватЭры, на дварЭ.
Энергічна для вас, дзеці, так Эфектна «рЭ» бярЭ.

# Ю



**Ю**ЛЬКА І КАШУЛЬКА

Мы з сястрой каля акна
Кормім маннай кашай Юльку...
Есці вучыцца яна:
У рот — глыток, два — на кашульку.
Бачым, не пад’ела Юлька,
Толькі брудная кашулька.
Юльку зноў пачаў карміць,
А сястра — кашульку мыць.




## Загадка

Юрка вам расказваць стане,
Як ён жыў у Казахстане,
Як ён бачыў там жытло —
Лямцам крытае яно.
— Цяпер знайце, —
Скажа Юрка, —
Што гэта такое...

(Юрта)



## Скорагаворкі

Юзя ўЮна злавіла,
Юзя Юшкі наварыла,
Юшка смачная ў нас —
Пачастуем ёй і вас.



Юра, не Юлі ля Юлі, надакучылі ёй гулі.
Лялькі Юліны паснулі, трэба ЮлЮ класці ў лЮлЮ.



# Я



ПРА **Я**НІКА І **Я**НКУ



Янік бэзу тры галінкі
Ранкам зрэзаў длЯ Янінкі.
Янік падышоў да ганка,
Дзе Яго спаткала Янка:
— Ты нашто ў наш сад залез
Без дазволу рэзаць бэз?
Адказаў на гэта Янка:
— На мЯне не злуйсЯ, Янка!
Зрэзаў толькі тры галінкі
Я длЯ хворае дзЯўчынкі.
Будуць лепш Яны за лекі,
Што прынеслі ёй з аптэкі.



## Загадка

Як толькі лета настае,
Адкрыем тварыкі свае:
Я — сунічка, Я — чарнічка,
Я — марошка, Я — бруснічка.
З нас варэнне, з нас і квас.
Ведаеш, Як клічуць нас?

(Ягадкі)







## Скорагаворкі

Якаў — юнга, не матрос,
Яшчэ трошкі не дарос.
— Якаў, хутка тваЯ вахта, —
Ранкам выйшла ў мора Яхта.

Ясіка ў Яселькі вёз на Яліку Алік,
Алік на Яліку вёз у Яселькі Ясіка.





Вось і ўсё! Ад «А» да «Я»
Прайшла азбука твая.
А як літары ўсе знаеш,
Кніжак шмат ты прачытаеш.
Пастарайся, калі ласка,
Потым помніць кніжкі-казкі,
Каб дзясяткі «зарабляць»,
Трэба вельмі шмат чытаць!



